ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 103 (1740) | Аўторак, 25 снежня 1962 года | Цана 4 кап.

У ГЭТЫМ НУМАРЫ



# ТВАРЫЦЬ ДЛЯ НАРОДА, У ІМЯ КАМУНІЗМА

## ПРАМОВА САКРАТАРА ЦК КПСС Л. Ф. ІЛЬІЧОВА

### НА СУСТРЭЧЫ КІРАЎНІКОЎ ПАРТЫІ І ЎРАДА З ДЗЕЯЧАМІ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА 17 СНЕЖНЯ 1962 ГОДА

З часу апошняй сустрэчы дзеячоў літаратуры і мастацтва з кіраўнікамі партыі і ўрада мінула каля двух з палавінай гадоў.

Многа вады сплыло з той пары, многа важных падзей адбылося ў нашай краіне і на міжнароднай арэне. Адбыўся XXII з'езд партыі. Прынята новая Праграма КПСС. Наша партыя і савецкі народ ідуць ленінскім курсам да перамогі камунізма. Яшчэ больш павысіўся міжнародны аўтарытэт Савецкага Саюза.

Сёння мы зноў сабраліся, каб абмяняцца думкамі па найбольш хвалюючых усіх нас пытаннях развіцця сацыялістычнай культуры. Нічога, зразумела, надзвычайнага, звышзвычайнага не адбылося. Цэнтральны Камітэт нашай партыі задаволен становішчам справы ў галіне культуры — развіццё яе ідзе на здаровай аснове, у правільным напрамку, у нагу з часам. Наша мастацтва верна б'е ў патрэбную цэль.

Сустрэчы, адкрытыя і шчырыя гутаркі кіраўнікоў партыі і ўрада з дзеячамі савецкай культуры сталі ўжо традыцыяй, якую ўсе адабраюць.

Ранейшыя гутаркі, мяркуючы па ўсім, былі карыснымі. Яны адыгралі станоўчую ролю ў кансалідацыі ўсіх творчых сіл савецкай культуры. Сённяшняя сустрэча, якая, трэба спадзявацца, таксама будзе карыснай, ідзе на развіццё гэтай добрай традыцыі. Яна, бясспрэчна, будзе садзейнічаць далейшаму згуртаванню дзеячоў літаратуры і мастацтва на глебе служэння высакароднай справе будаўніцтва камунізма.

Наспеўшай такую гутарку прызналі і Цэнтральны Камітэт партыі, і дзеячы літаратуры і мастацтва. Узнікла нямала вострых ідэалагічных пытанняў, у якіх неабходна разам разабрацца, праясніць пункты гледжання, удакладніць пазіцыі, каб яшчэ больш паспяхова ісці наперад.

Ідэйны арсенал нашай мастацкай інтэлігенцыі папоўніўся за апошні час такімі выдатнымі дакументамі творчага марксізма-ленінізма, як матэрыялы XXII з'езда і Праграма КПСС, выступленні М. С. Хрушчова па пытаннях літаратуры і мастацтва.

Кожны савецкі мастак можа цяпер з яшчэ большай глыбінёй усвядоміць вялікае прызначэнне літаратуры і мастацтва, сваё месца ў барацьбе народа за камунізм. Цяпер, калі мы ўступілі ў эпоху разгорнутага будаўніцтва камунізма, нязмерна павысілася адказнасць мастацкай інтэлігенцыі за развіццё ідэалагічнага, духоўнага жыцця савецкага грамадства.

Нам нельга не думаць аб чыстаце і моцнасці нашых ідэйных пазіцый, аб галоўным напрамку, галоўнай лініі ў развіцці савецкай літаратуры і мастацтва.

## I.

М. С. Хрушчоў і іншыя кіраўнікі партыі і ўрада нядаўна наведалі Выстаўку маскоўскіх мастакоў, яны азнаёміліся таксама з творамі мастакоў-абстракцыяністаў і скульптара Э. Неізвестнага. Там жа, на выстаўцы, гэтыя творы, а таксама фармалістычныя работы некаторых іншых мастакоў былі сурова, але справядліва раскрытыкаваны. Пазбаўленая ўсякага разумнага сэнсу абстракцыяніцкая мазня на палотнах з'яўляецца не чым іншым, як паталагічнымі выкрутасамі, нікчэмным перайманнем разбэшчанага фармалістычнага мастацтва буржуазнага Захаду.

«Такая «творчасць», — гаварыў на выстаўцы М. С. Хрушчоў, — чужая нашаму народу, ён адхіляе яе. Вось над гэтым і павінны задумацца людзі, якія называюць сябе мастакамі, а самі ствараюць такія «карціны», што не зразумееш — нарысаваны яны рукой чалавека ці намаляваны хвастом асла. Ім трэба зразумець свае памылкі і працаваць для народа».

Такім чынам, М. С. Хрушчоў і іншыя таварышы выказалі адмоўныя адносіны да фармалізму і абстракцыянізму, па-дзелавому і вельмі пераканаўча раскрытыкавалі фармалістычнае мастацтва, перш за ўсё за яго адрыў ад жыцця народа, за наўмысна скажоны паказ рэчаіснасці. **Ленінскія прынцыпы партыйнасці і народнасці ляжалі і будуць ляжаць у аснове палітыкі нашай партыі ў галіне развіцця сацыялістычнай культуры.**

Сустрэча кіраўнікоў партыі і ўрада з маскоўскімі мастакамі на выстаўцы, прысвечанай 30-годдзю Маскоўскага аддзялення Саюза мастакоў, адбылася, вядома, не выпадкова.

У Цэнтральны Камітэт партыі і ў Савет Міністраў СССР, у адрас Мікіты Сяргеевіча Хрушчова ў апошні час пачалі паступаць пісьмы, аўтары якіх — прадстаўнікі розных груп мастацкай інтэлігенцыі — ставяць вострыя, ледзь не самыя карэнныя пытанні развіцця нашага мастацтва.

У чым, гаворачы коратка, сэнс гэтых пісьмаў? Іх аўтары рашуча пратэстуюць супраць фактаў зняважы рэалістычных традыцый, якія складаюць славу рускага класічнага і савецкага мастацтва. У некаторых мастакоў, напрыклад, усё больш выразна праступае імкненне да абстрактнага жывапісу, што выклікае неспакой. Абстракцыяністы перайшлі да актыўных дзеянняў — арганізоўваюць выстаўкі сваіх «твораў», назойліва рэкламуюць іх унутры краіны і па-за ёю, выдаюць сябе за адзіных прадстаўнікоў сапраўднага мастацтва, а ўсіх, хто стаіць на пазіцыях сацыялістычнага рэалізму, трэціруюць як «кансерватараў».

Сёй-той ставіць пад сумненне нават патрабаванне зразумеласці і даступнасці мастацтва. Чуюцца нават галасы, што сапраўды наватарскае мастацтва заўсёды незразумелае, бо масы нібыта не могуць успрымаць сучасную мову мастацтва, і што побач з мастакамі для мас могуць і павінны быць мастакі для нямногіх, выбраных.

Вялікая група мастакоў звярнулася ў прэзідыум нядаўна праходзіўшага Пленума Цэнтральнага Камітэта партыі з пісьмом. Яны пісалі:

«У цяперашні час фармалістамі ставяцца пад сумненне, як застарэлыя, выказванні У. І. Леніна і рашэнні партыі аб рэалістычным мастацтве. Свае выступленні і практычную дзейнасць фармалісты накіроўваюць да адраджэння фармалістычных тэндэнцый, асуджаных рашэннямі партыі.

Мы звяртаемся ў Цэнтральны Камітэт партыі і просім сказаць, што ж застарэла ў гэтых рашэннях. Калі яны не застарэлі, то выступленні супраць гэтых рашэнняў у друку, па радыё і тэлебачанню неабходна разглядаць як рэвізіяніцкія, якія садзейнічаюць пранікненню чужой нам ідэалогіі».

Група прапаведнікаў фармалізму, указваюць далей аўтары пісьма, выкарыстаўшы няправільныя ў мінулым адносіны да творчасці такіх мастакоў, як Д. Штэрэнберг, А. Шаўчэнка, Р. Фальк, А. Дрэвін і іншыя, падхапіла цяпер іх фармалістычныя творы як сцяг. Пад гэтым сцягам некаторыя мастакі спрабуюць працягнуць у наша выяўленчае мастацтва чужую яму ідэалогію.

І, сапраўды, на Выстаўцы маскоўскіх мастакоў многа жывых, часам вельмі вострых дыскусій узнікае ля такіх карцін, як «Аголеная» і «Нацюрморт» Р. Фалька, «Аніська» і «Нарцюрморт. Селядзец» Д. Штэрэнберга, «Снеданне» А. Васняцова, «Геолагі» П. Нікакава, ля скульптуры «Мацярынства» А. Полагавай і іншых работ.

Нельга не згадзіцца з наведвальнікамі выстаўкі, якія ў сваёй пераважнай большасці асуджаюць гэтыя карціны, абураюцца скажоным паказам савецкіх людзей, нашага жыцця ў цэлым.

Яшчэ больш цяжкае, проста агіднае ўражанне пакідаюць «творы» абстракцыяністаў, напрыклад, «Аўтапартрэт», «Толька» Б. Жутоўскага, «Касманаўты», «Плес» В. Шорца, «1917-ы» Л. Грыбкова і іншыя. Пачуццё пратэсту выклікаюць таксама работы Э. Неізвестнага «Разбураная класіка», «Рак» і некаторыя іншыя.

Калі аб вартасцях або недахопах работ П. Нікканава, Р. Фалька, А. Васняцова яшчэ неяк можна спрачацца, то аб так званых «палотнах» маладых абстракцыяністаў, якія групуюцца вакол Э. Бялюціна і называюць сябе «шукальнікамі», наогул спрачацца няма чаго — яны па-за мастацтвам. У лістападзе гэтыя фармалісты арганізавалі «выстаўку» сваіх «твораў». І, вядома, тут як тут былі зарубежныя журналісты. Яны шчоўкалі фотаапаратамі, круцілі кінакамеры (значыць, трэба чакаць, што за рубяжом хутка «выйдзе» яшчэ адзін фільм пэўнага гатунку), бралі інтэрв'ю, а затым шырока распісалі ўсё гэта ў буржуазных газетах. Словам, стваралі бачнасць буйной «падзеі» ў культурным жыцці савецкай сталіцы. А навошта? Зразумела, толькі для таго, каб зняважыць, прынізіць наша сапраўды савецкае мастацтва:

— Вось, маўляў, глядзіце: рэалістычным традыцыям Рэпіна прыходзіць канец.

Справа, аднак, не толькі і нават не столькі ў тым, што на Выстаўцы маскоўскіх мастакоў прадстаўлены фармалістычныя карціны, на якіх паказаны нейкія безвыходна змрочныя, панурыя і выродлівыя людзі, карціны, напісаныя з яўным перайманнем буржуазнага мастацтва перыяду яго заняпаду. Галоўнае заключаецца ў тым, што карціны фармалістаў расхваляюцца некаторымі неразборлівымі савецкімі крытыкамі і тэарэтыкамі як наватарскія, якія толькі і маюць права на існаванне, процістаўляюцца ўсяму лепшаму, жыццесцвярджальнаму, што створана рэалістычным мастацтвам. Фармалізм і нават яго крайняе выражэнне — абстракцыянізм хочуць выдаць тым самым за прамую дарогу сацыялістычнага мастацтва.

Калі чытаеш артыкулы такіх «тэарэтыкаў», то пераконваешся, што пад выглядам барацьбы **за разнастайнасць** у мастацтве спрабуюць усталяваць **фармалістычную аднастайнасць,** пад флагам пераадолення **ўяўнага дыктату** — навязаць сапраўды дыктат, **дыктат суб'ектыўных густаў** адарваўшыхся ад жыцця людзей, густаў, чужых усякаму нармальнаму, здароваму чалавеку.

Вось у імя чаго нават брудная мазня абвяшчаецца апошнім словам «мастацкай відушчасці».

У нас ёсць асобныя мастацтвазнаўцы, гатовыя сцвярджаць, быццам галоўная бяда нашага мастацтва — недастатковае пашырэнне абстракцыянізму, які ў сілах, на іх думку, удыхнуць нейкае новае жыццё ў сацыялістычнае мастацтва. Між тым, і тут увесь камізм становішча, нават на Захадзе чад абстракцыянізму праходзіць ужо, выстаўкі абстракцыяністаў правальваюцца, іх карціны высмейваюцца. І па заслузе, людзі пачынаюць мала-памалу рабіцца відушчымі.

Некаторыя мастакі пакрыўдзіліся на справядлівую крытыку савецкай грамадскасцю абстракцыянізму і фармалізму.

А на што, уласна, крыўдаваць? **Абстракцыяніцкія ж і мадэрніцкія «навацыі»** — гэта плынь, якая ніколі не была сцягам здаровага мастацтва, гэта **адыход ад асноўнай лініі развіцця савецкай літаратуры і мастацтва,** гэта адмова ад сувязі мастацкай творчасці з жыццём народа, з практыкай камуністычнага будаўніцтва.

Да якой пагарды да свайго народа трэба было дайсці, каб заяўляць, што народ «не дарос» да разумення адкрыццяў абстракцыяністаў!

А да чаго, уласна, дарастаць? Да страты разумнага сэнсу і нармальнага чалавечага густу? І як можна дайсці да адмовы ад выдатных, усталяваўшыхся ў барацьбе і правераных жыццём сацыялістычных традыцый нашага мастацтва? Чаму нізкапаклонства перад буржуазным мастацтвам, якое спрабуе, паводле слоў У. І. Леніна, «забіваць» чалавека, паралізаваць яго волю і энергію ў барацьбе за светлую будучыню, лічыцца перадавой, наватарскай пазіцыяй?

Не павінна быць недагаворанасцей. Нашы, так сказаць, дамарошчаныя абстракцыяністы і прыхільнікі буржуазных мод уступілі ў яўную супярэчнасць з Праграмай партыі, адобранай усім савецкім народам.

У нас нярэдка спрабуюць не толькі А. В. Луначарскага, але нават У. І. Леніна паказаць у якасці ледзь не прыхільніка абстракцыяніцкага «наватарства». Няправільны такі погляд у адносінах да А. В. Луначарскага, а ў адносінах да У. І. Леніна — гэта проста кашчунства.

Успомніце, з якім знішчальным сарказмам У. І. Ленін у гутарцы з К. Цэткін гаварыў аб прэтэнзіях абстракцыяністаў на наватарства:

«Так, дарагая Клара, нічога не зробіш, мы абое старыя. Для нас дастаткова, што мы, прынамсі, у рэвалюцыі застаемся маладымі і знаходзімся ў першых радах. За новым мастацтвам нам не паспець, мы будзем кульгаць ззаду».

Хто не адчуе тут злую іронію ленінскіх слоў! Не У. І. Ленін і партыя, а гора-наватары мадэрніцкага толку заўсёды пляліся і плятуцца ў хвасце рэвалюцыйна-пераўтвараючай дзейнасці мас, а значыць, і сапраўды рэвалюцыйнага мастацтва. А. В. Луначарскі, як вядома, вобразна называў усялякіх мадэрністаў хлапчукамі, якія з гіканнем бягуць наперадзе першага ўзвода і дурасліва перадражніваюць сапраўдных салдат.

## II.

Фармалістычныя тэндэнцыі, на жаль, пачалі пашырацца не толькі ў выяўленчым мастацтве, але і ў музыцы, літаратуры, кінематаграфіі.

У музыцы, напрыклад, пры агульным руху наперад назіраецца захапленне дзікімі завываннямі розных зарубежных, і не толькі зарубежных, джазаў. Гутарка ідзе не аб джазавай музыцы наогул, а аб какафоніі гукаў, якая абрушваецца іншы раз на слухачоў і толькі па непаразуменню называецца музыкай.

У кінематаграфіі, дзе прыкметны агульны творчы ўздым, выкліканы дабратворнымі пераўтварэннямі ва ўсіх сферах нашага жыцця, таксама з'яўляюцца творы, няспелыя ў ідэйных адносінах, фільмы, якія церпяць ад наўмыснай вытанчанасці, ускладнёнасці формы і таму адхілены глядачом.

Публікуюцца нярэдка вершы і празаічныя творы, у якіх у пагоні за арыгінальнасцю формы, у імя таго, каб не быць «падобным» на іншых, не толькі выхалашчваецца жыццесцвярджальны змест, але нярэдка траціцца ўсякі сэнс, кавэркаецца і засмечваецца руская мова.

Некаторыя дзеячы літаратуры і мастацтва проста-такі апантаны жаданнем корпацца на заднім двары і не хочуць бачыць, што адбываецца на генеральных магістралях нашага развіцця.

Вядома, што спецыяльнага прызначэння зарубежныя «турысты»,

(Заканчэнне на 2-й стар.)



Мяжа паміж старым і новым годам... Яна не толькі ў часе, яна і ў прасторы. «Пагранічныя знакі», такія, як гэты, з'яўляюцца зараз на вуліцах Мінска. Дацягнуцца да госці з лесу аказалася нялёгка, спатрэбілася спецыяльная машына.

Фота Ул. КРУКА.

## НАВАСЕЛЛІ Ў КЛУБАХ

З раёнаў Віцебшчыны прыходзяць радасныя весткі. Адзін за другім уступаюць у строй новыя асяродкі культуры. Пра выкананне плану капітальнага будаўніцтва раённых і сельскіх культасветустаноў мы папрасілі расказаць намесніка загадчыка абласнога аддзела культуры М. Шматкова.

— Не будзе перабольшаннем, калі мы назавём адыходзячы 1962 год ураджайным у сэнсе будаўніцтва новых памяшканняў для культасветустаноў. Зусім нядаўна, — сказаў М. Шматкоў, — ва ўрачыстай абстаноўцы адчыніліся дзверы Міёрскага раённага Дома культуры. Ён узрадаваў працаўнікоў Міёршчыны выдатнай глядзельнай залай на 410 месц, памяшканнямі, у якіх будуць працаваць гурткі самадзейнасці, кабінетам па прапагандзе агратэхнічных ведаў.

На карце Віцебскай вобласці ўсё больш і больш паяўляецца чырвоных сцяжкоў, якімі мы звычайна па традыцыі адзначаем нараджэнне новых дамоў культуры. У Дзень Савецкай канстытуцыі адчыніў свае дзверы Дом культуры калгаса «Перамога» Талачынскага раёна.

Запаліліся таксама агні ў клубах і дамах культуры ў калгасах «17 верасня» Глыбоцкага раёна, «Шлях Леніна» Браслаўскага раёна.

М. САВІЧ.

## РАБОТЫ ПА ГІСТОРЫІ БССР

Акрамя вялікай васьмітомнай працы «Гісторыя БССР», навуковыя работнікі Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР распрацоўваюць асобна тэмы гісторыі рэспублікі розных перыядаў. Значнае месца сярод работ і даследаванняў займае вывучэнне развіцця эканомікі, прамысловасці, сельскай гаспадаркі, культуры Беларусі савецкага перыяду. Новыя работы па гісторыі БССР закончылі навуковыя супрацоўнікі інстытута В. Антошын, В. Гняўко, З. Капыскі, К. Шабуня, В. Чапко. У рабоце В. Антошына даследуецца культурнае будаўніцтва ў Беларусі ў 1938—1941 гг., разглядаецца развіццё навукі, літаратуры, мастацтва даваенных год. Інстытут рыхтуе да друку новыя зборнікі дакументаў і матэрыялаў пра партызанскі рух на Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, хроніку важнейшых падзей партызанскага руху, другі том успамінаў партызан і падпольшчыкаў і іншыя работы.

Сёлета выйшла з друку адзінаццаць работ супрацоўнікаў інстытута.

# НАШ СЦЯГ — РЭАЛІЗМ І НАРОДНАСЦЬ

Адкрытая, шчырая размова, што адбылася на сустрэчы кіраўнікоў партыі і ўрада з прадстаўнікамі мастацкай інтэлігенцыі Савецкага Саюза, надоўга застанецца ў памяці ўсіх тых, каму пашанцавала быць 17 снежня ў Доме прыёмаў на Ленінскіх гарах. Гаворка на гэтай незабыўнай сустрэчы ішла аб галоўным напрамку, аб галоўнай лініі развіцця савецкай літаратуры і мастацтва па шляху сацыялістычнага рэалізму.

Савецкім мастакам трэба рашуча змагацца за ідэйную чысціню нашых творчых пазіцый, супраць любых праяў і плыняў буржуазнага ўпадніцкага мастацтва — фармалізму і абстракцыянізму, дадэкафоннай і серыйнай музыкі, варожай мастацкім густам і ідэалам нашага народа.

Сёй-той на Захадзе хацеў бы заразіць нас трупным ядам абстракцыянізму. Нам трэба не крычаць «ратуйце!», а спакойна, але цвёрда ліквідаваць мярцвячую з'яву, што пагражае нам. Сапраўднае наватарства не павінна падмяняцца бясплоднымі пошукамі ноўшаства толькі формы, шкоднай фарматворчасцю, ілжывымі «навацыямі».

Музыка, як і кожны іншы від рэалістычнага мастацтва, па сваёй прыродзе павінна быць прыгожай, яркай і выразнай, павінна прыносіць людзям эстэтычную асалоду. Інакш яна перастане быць эстэтычнай катэгорыяй. Розныя шумы, нястройныя гукі дадэкафоннай, серыйнай ці канкрэтнай «музыкі» — гэта яшчэ не творы музычнага мастацтва, і яны не патрэбны савецкім людзям.

Партыя і ўрад заклікаюць пісьменнікаў і кампазітараў, мастакоў і кінематаграфістаў своечасова і ўсебакова ацэньваць працэсы, што адбываюцца ў развіцці савецкай літаратуры і мастацтва. І мы павінны адказаць на такое высокае давер'е актывізацыяй сваёй творчасці, стараючыся памагчы ў фарміраванні густаў, у выхаванні нашага народа — будаўніка камунізма — на выдатных традыцыях вялікага рэалістычнага мастацтва.

**Я. ЦІКОЦКІ,**
**народны артыст СССР, старшыня праўлення Саюза кампазітараў БССР.**

# МАГУТНЫМ ЛЕНІНСКІМ ПРАЖЭКТАРАМ

Цяпер, калі апублікавана прамова таварыша Л. Ф. Ільічова, нам, удзельнікам незабыўнай сустрэчы, лягчэй дзяліцца сваімі ўражаннямі з чытачамі.

У прамове сакратара ЦК КПСС, якой адкрылася гэтая надзвычай цікавая і, не будзе перабольшаннем сказаць, гістарычная па сваім значэнні гутарка кіраўнікоў партыі і ўрада з дзеячамі літаратуры і мастацтва, з філасофскай глыбінёй і народнай яснасцю выкладзены ленінскія прынцыпы, якія няўхільна праводзілі і будуць праводзіць наша партыя, яе Цэнтральны Камітэт у кіраўніцтве мастацкім працэсам, у фарміраванні вынікаў гэтага працэсу. Выкрыты ідэалагічныя карэнні фармалістычных выкрутасаў некаторых мастакоў, якім не па душы ленінскія прынцыпы партыйнасці і народнасці, якія імкнуліся пацягнуць моладзь у бруднае балота абстракцыяніцкай мазні, што з'яўляецца не чым іншым, як выяўленнем буржуазнага ідэалізму ў мастацтве, адыходам ад жыцця народа, занядбаннем яго інтарэсаў. Гэты партыйны дакумент з'явіцца, безумоўна, праграмай для ўсіх савецкіх пісьменнікаў, мастакоў, музыкантаў, акцёраў, для ўсіх тых, хто ганарыцца высокім званнем памочнікаў партыі і шчыра імкнецца тварыць для народа.

У велічны і цудоўны будынак камунізма, заўважыў М. С. Хрушчоў, павінен быць пакладзены трывалы, прыгожы мастацкі матэрыял. Ніякога сырцу, ніякіх бясформенных дэталей!

Бадай, самае моцнае ўражанне пакінула сама форма сустрэчы — па-сапраўднаму дэмакратычная, шчырая, таварыская. Гэта выяўлялася ва ўсім: гасцінным запрашэнні Мікіты Сяргеевіча спачатку паабедаць, а пасля пачаць размову пра тое, што аднолькава хвалявала і кіраўнікоў партыі, і нас, мастакоў; у гутарках на перапынках, калі разам з членамі Прэзідыума ЦК КПСС мы аглядалі карціны, скульптуры, высвятлялі ў абстракцыяністаў змест іх «шэдэўраў» (дарэчы, ні адзін з іх толкам нічога не здолеў растлумачыць). А таму, калі было абнародавана пісьмо, якое накіравала ў ЦК група дзеячоў літаратуры і мастацтва, я, асабіста, прызнаюся, здзівіўся і не разумеў іх. Чаму раптам устрывожыліся вядомыя і паважаныя пісьменнікі і мастакі? Што іх спалохала? Крытыка абстракцыяніцкай мазні? Боязь, што могуць вярнуцца метады мінулага? Сама гэтая сустрэча, яе сутнасць і форма абвяргалі такую боязь.

У мінулым калектыўнае партыйнае кіраўніцтва замянялася дыктатам аднаго чалавека. Хіба магчыма была пры культе Сталіна такая сустрэча і — тым больш — такая шчырая, сардэчная, смелая і прынцыповая размова? Мікіта Сяргеевіч расказаў, як прымаліся ў той час некаторыя пастановы аб мастацтве, якія пасля ЦК прыйшлося адмяняць, у прыватнасці, пастанову аб оперы «Багдан Хмяльніцкі».

Аўтары пісем, як сказаў тав. Ільічоў, зблыталі два розныя пытанні: «творчую садружнасць дзеячоў літаратуры і мастацтва, якія стаяць на марксісцка-ленінскіх пазіцыях, і адносіны да розных варожых ідэалагічных напрамкаў у мастацтве». Натуральна, што ўсе мы — за жанравую разнастайнасць, за спаборніцтва розных стыляў, плыняў, творчых почыркаў у агульным чыстым рэчышчы сацыялістычнага рэалізму. Але з тымі, хто хоча збіць савецкую літаратуру з яснага правільнага шляху, не можа быць кампрамісаў! Менавіта ў гэтым быў пафас і тых крытычных заўваг, якія зрабіў М. С. Хрушчоў пры аглядзе выстаўкі ў Манежы, і дух усёй размовы пры сустрэчы. Яўгеній Еўтушэнка паспрабаваў абараняць абстракцыяністаў. Як паэт, ён «біў» на пачуцці прысутных: маўляў, той жа скульптар Неізвестны, ён жа не вораг, ён — савецкі чалавек, быў на фронце, нават мае раненні. Ніхто з прысутных, безумоўна, нічога не меў і не мае супраць Неізвестнага, і, бадай, ні ў кога не магло ўзнікнуць сумненне, што ён быў шчырым абаронцам радзімы. Але тут жа на стале, у зале прыёмаў, стаялі яго скульптуры. І яны гаварылі самі за сябе.

Я на перапынку ўважліва агледзеў іх, асабліва прыцягвала ўвагу скульптура, якую аўтар назваў «Жанчына». Я стаяў перад ёй доўга не таму, што меў эстэтычную асалоду. Не, на такую жанчыну брыдка глядзець. Але мне, рэалісту, хацелася зразумець: навошта, з якой мэтай вылеплена такая фігура? З дзіркай замест жывата, з абвіслымі бясформеннымі грудзьмі, з кульцяпкамі расстаўленымі ў баку рук, па сутнасці без галавы — такое страшыдла названа жанчынай, з якой звязана ўсё самае высокае і прыгожае ў жыцці. Якія ж пачуцці можа выклікаць у здаровага чалавека скульптура Неізвестнага? Толькі агіду, ці ў лепшым выпадку неўразуменне. Яна можа парадаваць толькі або людзей псіхічна хворых або чалавеканенавіснікаў, ніцшэанцаў: маўляў, глядзіце, якая пачвара чалавек, якому вы спяваеце гімны.

Не, дарэмна Еўтушэнка спрабаваў даказаць, што гэта не праяўленне варожай нам ідэалогіі, а ўсяго толькі «эксперыменты», бяскрыўднае свавольства маладых людзей. У прамове Л. Ф. Ільічова вельмі хораша пра гэта сказана: «Складанасць праблемы ў тым і заключаецца, што ні ў якім разе не заўсёды суб'ектыўныя намеры мастака раўназначны аб'ектыўнаму сэнсу яго творчасці. Добрыя пажаданні мастака зусім не выключаюць таго, што на справе аб'ектыўна яго творы будуць служыць інтарэсам варожых сіл».

З вялікай увагай М. С. Хрушчоў, яго таварышы па рабоце слухалі выступленні кожнага прамоўцы. Нікога не абмяжоўвалі нават у часе. Здзіўляла і прыемна ўражвала веданне кіраўнікамі партыі і ўрада становішча і настрояў у нашых творчых арганізацыях. Сапраўды, хіба не чулі мы, як часам маладыя і гарачыя галовы патрабавалі: дайце нам пісаць так, як мы хочам і пра што хочам, не трэба нам рэдактараў і г. д. Але тут жа гэтыя «абаронцы свабоды творчасці» рабілі спробы закрэсліць усё тое, што было створана да іх. Хіба ж гэта не элементы анархічнага свавольства? І хіба няпраўда, што, спалохаўшыся ярлыкоў «дагматык», «сталініст», некаторыя старэйшыя мастакі здавалі пазіцыі сваёй наступальнай барацьбы за прынцыпы сацыялістычнага рэалізму, пераходзілі, па сутнасці, да абароны? Хіба пры такім становішчы мог Цэнтральны Камітэт заставацца ў баку, не напомніць ясную ленінскую палітыку партыі ў галіне літаратуры і мастацтва? Пра гэта пераканаўча і глыбока гаварыў М. С. Хрушчоў у заключным слове: «у нас ёсць поўная свабода барацьбы за камунізм. У нас няма і не можа быць свабоды для барацьбы супраць камунізма». Словы гэтыя былі сустрэты гарачым ухваленнем усіх прысутных.

Радасцю і гордасцю напаўняецца сэрца ад усведамлення, што партыя, самы мудры крытык і дарадчык, святлом свайго магутнага ленінскага пражэктара зноў паказала верны курс нашаму мастацкаму караблю.

**Іван ШАМЯКІН,**
**пісьменнік, намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР.**

# ПАД ЧУЖУЮ МУЗЫКУ

Барацьба, што адбываецца цяпер у мастацтве паміж рэалістамі і абстракцыяністамі, з'яўляецца не проста спрэчкаю паміж двума раўнапраўнымі мастацкімі стылямі, а адлюстраваннем той галоўнай барацьбы, якую навуковы камунізм вядзе са сваімі праціўнікамі. І нават не адлюстраваннем, а свайго роду асаблівай формай гэтай барацьбы, яе «ізатопам» у мастацтве.

Устарэў рэалізм ці не? Людзям, якія ставяць так пытанне, можна адказаць таксама пытаннем: старое ці новае жыццё чалавечае? Жыццё чалавечае заўсёды новае! З кожным часам, з кожным пакаленнем штосьці новае прыходзіць у яго.

Але ж рэалізм і адлюстроўвае менавіта гэтае — новае жыццё. Няспынна развіваючыся, ён увесь час робіцца ўсё больш новым разам з жыццём і заўсёды такі ж новы, як яно. Здавалася б, смешна абараняць рэалізм. Гэта ўсё роўна, калі б мы рашылі даказваць, што праўда лепш за няпраўду, а справядлівасць лепш за несправядлівасць.

Усё гэта даўно вядомыя ісціны. Але ў тым-та і справа, што менавіта на гэтыя простыя ісціны і скіравана цяпер атака буржуазнай ідэалогіі. Свет, асуджаны на сваю класавую гібель, змагаецца за сваё існаванне. Разумеючы, што гэтая гібель з'яўляецца няўмольным вынікам таго, што ідэі праўды набываюць сілу і магутнасць, ідэалогія капіталізму пачала вайну супраць самой праўды, хочучы разбурыць самыя асновы сучаснай класавай свядомасці працоўных.

Вось куды цягнуцца каналы, якія жывяць ідэі абстракцыянізму, вось адкуль ідуць кіруючыя сігналы для дзеячоў гэтага напрамку. У тым ліку і для «нашых уласных» абстракцыяністаў. Зразумела, яны гэтага яшчэ не ўсведамляюць, у іх, як і ў некаторых людзей, празмерна ахвочых да танцаў, і рукі і ногі міма волі тузаюцца пры гуках музыкі. Чуваць далёкія гукі музыкі, яны пачынаюць прытанцоўваць у такт, не думаючы аб тым, што музыка гэта чужая, не радасная, а пахавальная.

Барацьба з ідэямі абстракцыянізму і крайняга натуралізму ў мастацтве не павінна ператварацца ў кампанію. Сярод аматараў гэтага «напрамку» ёсць, напэўна, і таленавітыя людзі (цяпер гэта цяжка сказаць — няма ніякіх крытэрыяў. Адна мазня падобная на другую мазню, як адно яйка на другое), ды і няма пакуль падстаў думаць пра тое, што яны не савецкія людзі. Гэта людзі, якія збіваюцца з дарогі, але нашы людзі.

Прадстаіць упартая растлумачальная праца. Трэба растлумачваць уважліва і цярпліва. І пэўна давядзецца моцна расчаравацца таму, хто загадзя прыгатаваў сабе цярновы вянок і стаў у позу «пакутніка».

Думаю, будзе не лішнім нагадаць тут словы А. М. Горкага аб тым, што менш за ўсё мы павінны займацца «фарміраваннем пакутнікаў».

**М. ФІГУРОЎСКІ,**
**кінарэжысёр, сакратар праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР.**

